## НАДЗЁННАЯ КЛАСІКА

### Федор Тютчев

* * *

Напрасный труд —
нет, их не вразумишь, —
Чем либеральней,
тем они пошлее,
Цивилизация —
для них фетиш,
Но недоступна им
ее идея.
Как перед ней
ни гнитесь, господа,
Вам не снискать
признанья
от Европы:
В ее глазах вы будете
всегда
Не слуги просвещенья,
а холопы.

1867 г.



## З БУДУЧАЙ КНІГІ

# ПАКУТНІК НАВЫВАРАТ

### Навэла з натуры

У гарадскім Доме культуры рыхтаваўся вечар. Прысвячалі яго ахвярам сталінсіх рэспрэсій. У кабінеце дырэктара сабраліся ўсе супрацоўнікі Храма культуры.

— Ці думалі, таварышы, — пачаў Іван Іванавіч Гаркун, гаспадар кабінета, — каго мы павінны запрасіць выступіць з былых вязняў? Параіўшыся з тымсім, прапаную запрасіць Воюша Пятра Лазаравіча, які будаваў у свой час магістраль Мінск — Масква; Плясуна Івана Нічыпаравіча, ён будаваў канал Волга — Дон; Ладнага Паўла Міхайлавіча — пакутніка Калымы; Вараноўіча Станіслава Казіміравіча, які адмучыўся пад Нарыльскам...

— Іван Іванавіч, — гукнуў з кутка загадчык культурна-масавага аддзела Федя Шыпулька, — мы забыліся пра галоўнага, паважанага ўсімі Бруднага Гаўрылу Якаўлевіча. Без гэтага знакамітага чалавека я не ўяўляю вечара. Ім жа захапляецца моладзь. Ён — часты госць на дыскатэках! Шмат выступае ў школах.

— Бруднага Гаўрылу Якаўлевіча я ведаю не менш за цябе, — сказаў дырэктар. — Гэту каларытную фігуру мы пакінем на "закуску", як часта робяць на канцэртах, дзе ўдзельнічаюць артысты.

— А калі хто з прысутных захоча выступіць? — зноў запытаў нецярплівы масавік.

— Хай выступае на здароўе, на тое ён і масавы вечар. Але ж нашых удзельнікаў павінен закругляць вядомы на ўвесь горад Брудны Гаўрыла Якаўлевіч.

Тым часам мастакі рыхтавалі аб'явы, стэнды з фотаздымкамі былых вязняў. Масавікі звязваліся асабіста з кожным выканаўцам. Таго-сяго даводзілася ўгаворваць. Брудны ж нават падзякаваў за запрашэнне. Яго на такія справы ніколі не трэба было агітаваць.

На вечар ў пятніцу сабралася людзей багата. Яго адкрыў уступным словам дырэктар Дома культуры. На сцэне за сталом сядзелі госці. Першым выступіў былы вязень Вяземлага Воюш Пётр Лазаравіч. Ён апавядаў прысутным пра пакуты, якія перанёс сам і тысячы такіх жа нявольнікаў. Пасля выступілі астатнія госці. Лёсы іх былі ў нечым падобныя і разам з тым розніліся.

Слухаючы гэтых людзей, шмат хто ў зале ціха выціраў вочы.

— ... І нарэшце, — сказаў вядучы, — слова нашаму любімаму госцю, вядомаму прапагандысту антысталінізму, вялікаму пакутніку сталінска-яжоўска-берыеўскіх часоў Гаўрылу Якаўлевічу Бруднаму, чалавеку энергічнаму і таленавітаму.

У зале выбухнулі апладысменты.

— Мы пачулі тут балючыя споведзі пакутнікаў Вяземлага, Волга-Донскага, Калымскага і Нарыльскага лагераў. Усе яны балючыя і горкія, — пачаў Брудны. — Я ж хачу расказаць вам, таварышы, яшчэ пра адну мясціну пакутаў і смярцей. А назва гэтым мясцінам — Тайшэт і яго пракляты Богам і людзьмі лагер — Тайшэтлаг. Што такое Тайшэт і яго пракляты лагер, тлумачыць не буду. Я ўпэўнены, што гэтую старонку геаграфіі прысутныя ведаюць.

— Ведаем! — пачуўся чыйсьці голас. — Расказвайце!

— Дык вось, усім цяпер вядома БАМ, якую таксама будавалі "камсамольцы" ў намордніках. Лічыцца, што яе пачалі будаваць у 60-х гадах. А на самой справе значна раней. І пачатак бярэ яна не ад Ангары, а ад станцыі Тайшэт. Першы ўчастак яе мы вялі ад станцыі Тайшэт да Ангары цераз Чулым. Так што я з'яўляюся піянерам БАМа. Колькі мне давялося зазнаць голаду, холаду і наогул пакутаў!.. Як толькі я жывы застаўся!? Зімою маразы, летам машкара і камары, а тут чуеш: "давай" і "давай"! Абясціліш, атрымаеш трохсотграмовую пайку і ў дадатак пагарду і ёмісты кій па боку, канешне... Як толькі я выжыў! — паўтарыў ён свае словы і артыстычна заплакаў. Як кажуць, пусціў кракадзілавую слязу. І тут жа тройчы перахрысціўся. Гледзячы на яго, той-сёй з прысутных таксама перахрысціўся і па-сапраўднаму праслязіўся. Асабліва гэта датычыць жанчын. На іх і разлічваў "пакутнік навыварат".

Не паспеў Брудны пакінуць трыбуну, выціраючы кракадзілавыя слёзы, як папрасіў слова мужчына сталага веку. Галава яго была пакрыта сівізной, постаць згорбленая, хада няроўная. Ён павольна, не спяшаючыся і абапіраючыся на кіёк, ішоў на трыбуну.

— Вось тут толькі што выступаў мой зямляк па Тайшэтлагу, які са слязамі на вачах закончыў сваю "балючую" прамову-споведзь, — пачаў сівы дзядок. — Дарагія мае сябры, не верце гэтаму чалавеку, калі яго можна так назваць, і яго кракадзілавым слязам. Гэта ж суцэльная хлусня! — Зала сціхла і насцярожылася.

— Так, сапраўды, — працягваў прамоўца, — Брудны быў у Тайшэтлагу, але ж у якасці каго? Лагернага паліцэйскага!

— Гэта ілжэц! Паклёпнік! Вылазка варожага элемента! — не стрымаўся Брудны.

— Гаўрыла Якаўлевіч, не перабівайце прамоўцу, — сказаў вядучы. — А вы працягвайце... Скажыце толькі, як вас завуць, — звярнуўся ён да старога.

— Горбаў я, Сцяпан Кузьміч, — адказаў той. — Дык вось, дарагія сябры мае, я раскажу, хто такі Брудны. Ён спачатку быў у нас брыгадзірам, потым перайшоў у самаахову. Праз нейкі час ён ужо быў начальнікам кандзея (ізалятара), ці лагернага карцэра. Пасля хадзіў у чыне лагернага выхавальніка. Затым займаў пасаду нарадчыка — лагернага адміністратара. Увесь час лічыўся членам калектыву агітбрыгады — лагернай самадзейнасці, "клеймил позором" лагерных "гультаёў" і "адмоўнікаў" — аслабелых зняволеных. Менавіта там ён навучыўся плакаць, на выпадак, калі яму гэта спатрэбіцца. Вось так, як ён зараз паказаў з гэтай трыбуны. І хрысціцца там навучыўся, зноў жа, на ўсякі выпадак.

— Я пратэстую! — Зноў не стрымаўся Брудны. — Таварыш вядучы, забараніце гэтаму самазванцу ўзводзіць паклёп на сумленнага чалавека!

Але вядучы маўчаў.

— Гэта ты сумленны чалавек? — спакойна спытаў яго Горбаў.

Вядучы, дырэктар Дома культуры, разгубіўся і не ведаў, што яму ў гэтым выпадку рабіць.

— У вас усё? — Нарэшце спытаў ён.

- Не, не ўсё яшчэ. Я назваў толькі лагерныя пасады гэтага нягодніка Бруднага, а пра яго "пакуты" ці ўчынкі я яшчэ нічога не сказаў. А напаскудзіў ён шмат.

— Тады працягвайце, калі ласка, трэба ж ведаць ісціну.

— Трэба праз адпаведныя органы запатрабаваць паслужны спіс Бруднага, — прапанаваў нехта з прысутных.

— Гэта потым, — адказаў яму Гаркун, — а зараз, пакуль суд ды справа, працягвайце, — зноў звярнуўся ён да Горбава.

І той пачаў расказваць, як гэты пакутнік навыварат здзекаваўся над зняволенымі. Як ён да смерці забіваў дрынам-дубцом няшчасных дахадзяг. Як заганяў у кандзей сваіх ахвяр і там жа, пасля біцця, марыў іх голадам і холадам. Як ён разам з канваірамі і аператыўнікамі цкаваў зняволеных сабакамі-аўчаркамі. Ён расказаў прысутным яшчэ шмат пра якія ўчынкі Бруднага.

— Успомні, гадзюка, як мяне і майго сябра Рыгора Каваля разам са стралком-ахоўнікам вы прывязалі да кедра раздзетых дагала як прынаду для камароў і машкары. Я, дзякуй Богу, застаўся жывы, а мой сябра пайшоў да сваіх продкаў... — сканаў. Прыглядзіся добра — твае рукі ў крыві, чыстай чалавечай крыві і ў брудзе. Нездарма ж ты і прозвішча такое носіш. Кругом брудны. Таварышы, калі вы мне не верыце, я зараз жа прывяду сюды сведкаў.

На гэтым Горбаў скончыў сваю прамову, ад якой Брудны збег. Спачатку непрыкметна пакінуў сцэну, дзе ён сядзеў за сталом побач з іншымі прамоўцамі, а затым і залу.

— Во падонак! Во пярэварацень, — абурыўся нехта. — А ўвесь час прыкідваўся "вялікім пакутнікам".

— Судзіць яго! Як злачынцу! — пачулася з другога кутка залы.

Голасам разгубленага чалавека вядучы аб'явіў:

— Таварышы, першая частка нашага вечара закончылася. Пасля перапынку будзеце глядзець, хто захоча, канцэрт мастацкай самадзейнасці нашага Дома культуры.

— З удзелам Бруднага? — пакпіў незта. Але дырэктар пакінуў гэтыя словы без увагі.

— Хто яшчэ не паспеў пазнаёміцца з нашымі тэматычнымі стэндамі і фотавітрынай, зрабіце гэта ў час перапынку, — сказаў дырэктар.

Ён падышоў да аднаго са стэндаў, а потым і да фотавітрыны і паздымаў з іх фотаздымкі і рэчы, якія належылі Бруднаму. А пасля запрасіў да сябе ў кабінет сваіх супрацоўнікаў і сказаў:

— Ну і апраставалосіліся ж мы! Гэта, таварышы, будзе нам навука.

Нехта з прысутных засмяяўся. Гаркун паглядзеў на яго і прамовіў словамі гараднічага з камедыі "Рэвізор":

— З чаго смеяцеся? З сябе смеяцеся! — І ўжо сваімі словамі:

"Мы ўсе тут расцяпы, а ў першую чаргу я і Шыпулька. Не дагледзелі. Верылі гэтаму прайдзісвету, ліха яго маці! Ох, і падвёў жа ён нас пад манастыр!"

А Брудны пасля такога выкрыцця блукаў па горадзе. А калі вярнуўся дамоў, адмовіўся ад вячэры, не распранаючыся, лёг на ложак. Калі ўсе паснулі, пакончыў з сабой, павесіўшыся ў сваім пакоі на звычайнай вяроўцы, на якой гаспадыні вешаюць бялізну. Хто не ведаў — шкадаваў. Хто ведаў — пасылаў у думках праклёны.

**Павел ПРУДНІКАЎ, пісьменнік**

## ТВАЯ КНІГА

# ТАКІ БЫЎ ГЛЕБАЎ

Думаецца, прозвішча гэтае вам шмат гаворыць. Яшчэ б! З Глебам Паўлавічам Глебавым так шмат звязана ў гісторыі нацыянальнага тэатра. Будучы акцёрам-купалаўцам, ён, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, быў любімы ўсімі — калегамі і сябрамі, шматлікімі гледачамі, аматарамі сцэнічнага мастацтва. Інакш як Глебушка яго і не называлі.

Гэтаму выдатнейшаму камедыйнаму акцёру прысвечана кніга доктара мастацтвазнаўства Анатоля Сабалеўскага "Глеб Глебаў", якую толькі што выпусціла выдавецтва "Навука і тэхніка". Дарэчы, у 1989 годзе з'явілася яго манаграфія яшчэ пра аднаго выдатнага купалаўца — "Барыс Платонаў". У абодвух выпадках Анатоль Сабалеўскі праяўляе сябе выдатным знаўцам тэатра, яго праблем, гісторыі.

Чытаць кнігу — адно задавальненне. Яна, як кажуць, на ўсе густы разлічана, і кожнаму, хто возьме яе ў рукі, прынясе радасць сустрэчы з тэатрам. Старэйшыя чытачы, безумоўна, успомняць непаўторныя хвіліны, калі спяшаліся на чарговы спектакль, бо ведалі, што на сцэну абавязкова выйдзе славуты Глебаў. І пры гэтым не было розніцы, якую ролю ён іграе — галоўную ці, прынамсі, эпізадычную. Асноўнае — у прадчуванні яшчэ адной сустрэчы з ТАЛЕНТАМ. Маладзейшыя, магчыма, прыгадаюць фільмы з удзелам Глебава, а яны часам дэманструюцца па тэлебачанні.

Ну а тыя, хто толькі адкрывае для сябе свет тэатральнага мастацтва, і, можа, нават гадаюць, а ці патрэбна ім захапляцца, прачытаўшы кнігу, тэатр палюбяць. Палюбяць з-за Глебава, яго высокага майстэрства. І не ў апошнюю чаргу з-за таго, як пра ўсё расказвае Анатоль Сабалеўскі. Здавалася б, гэта навуковае выданне, а напісана лёгка, эмацыянальна, я б сказаў, лірычна. Гэта тычыцца і тых момантаў з біяграфіі Глебава, калі ён толькі пачынаў мастакоўскі шлях. І зусім не Глебавым яшчэ быў, а Сарокіным. Глеб Сарокін — менавіта такое яго сапраўднае прозвішча.

Пісьменнік А.Сабалеўскі ўмела (творча!) выкарыстоўвае сведчанні друку, архіўныя матэрыялы. Нарэшце, спрацоўвае і інтуіцыя вопытнага даследчыка, які часам здатны ісці і ад зваротнага. А.Сабалеўскі асабіста ведаў Глебава, бачыў яго ў шматлікіх ролях, і гэта вельмі паспрыяла напісаць цікавую, дасведчаную, глыбокую кнігу.

Як вядома, па-сапраўднаму біяграфія Глебава пачалася пасля яго прыезду ў 1926 годзе ў Мінск. Адкрыццём новага, яркага таленту на купалаўскай сцэне стала выкананне Глебавым ролі Павала Няміры ў "Бацькаўшчыне" Кузьмы Чорнага. Зеніт яго творчай біяграфіі — Туляга ў "Хто смяецца апошнім" Кандрата Крапівы. Адпаведна і раздзелы кнігі названы "Адкрыццё таленту" і "У зеніце". І гэтак роля за роляй, год за годам... Да таго моманту, калі Глебаў выступіў у ролі Глушака ў "Людзях на балоце" Івана Мележа. Гэтая роля была апошняй работай Майстра.

Зразумець, якім быў Глебаў, яшчэ лепш дапамагаюць шматлікія ілюстрацыі. Увогуле, калі ўлічыць, якія сёння цяжкасці пры выпуску кніг, дык у выдавецтве "Навука і тэхніка" зрабілі, можна сказаць, немагчымае. Манаграфія Анатоля Сабалеўскага хораша аформлена, выйшла ў супервокладцы. Адным словам, кніга прама-такі просіцца ў рукі.

Кніга цікавая і патрэбная. Як запрашэнне ў тэатр. Учарашні і сённяшні.

**Віктар АНІШЧАНКА**

## ГЕАПАЛІТЫКА

**Безусловно, эта статья многим покажется странной. Более того, одни будут резко отрицать ее, другие, наоборот, одобрят. Поскольку поднимаемые вопросы касаются Беларуси, ее будущего, мы решили вынести предлагаемый автором материал на суд читателей.**

# ТЕНЬ ГЕРОСТРАТА

**На наших глазах разворачивается пятый этап беловежского сговора**

### Почему рассыпался договор между Россией и Белоруссией

Белорусские "демократы" ликуют: руководство республики повернулось к Западу. Президентская команда открыла шлюзы МВФ, Всемирному банку, пошла на "спайку" с правительствами и бизнесом США, ФРГ, других капиталистических стран. "Белоруссия удаляется от России!.. Никакого объединения с Москвой не будет!" — восторженно комментируют они "прорыв на западном направлении".

Конечно, можно и отмахнуться. Мол, русофобской куме — одно на уме: только б нашкодить, вбить между славянскими народами клин. Но комментарии национал-"демократов", увы, подозрительно совпадают с высказываниями официальных лиц. "Не может быть никакого разговора о каком-то объединении, — заявил на пресс-конференции министр иностранных дел Владимир Сенько. — Беларусь — независимое государство, уверен, таким и останется".

А ведь недавно в Минске звучали иные речи. Официально подчеркивалось, что суверенитет, независимость республики могут быть обеспечены лишь в тесном единстве со странами СНГ, в первую очередь с Россией. И все, казалось бы, шло к объединению с ней.

Что же случилось?

Чтобы понять причину, вспомним события, связанные с договором о единой денежной системе России и Белоруссии. Он замышлялся не просто как уникальный финансово-экономический акт. Договор должен был стать конкретным шагом к конфедерации, а может быть, отмечали руководители обеих сторон, и к более тесной государственной форме. С заключением его объединительный процесс, по их словам, наконец получил бы реальную, осязаемую основу. Сначала — для двух республик, затем — для всех стран содружества.

В те дни Б.Ельцин заверял с телеэкрана, что объективных препон для заключения договора нет. И он подпишет его в ближайшее время, ибо "народы хотят единства". Но обещание это оказалось пустым звуком. Вопрос о договоре не попал даже в повестку дня его первой встречи с А.Лукашенко. "Реальная, осязаемая основа" объединения была выбита из-под ног тех, кто к нему стремился. Столь шокирующим кульбитом политики застолбили разрыв единого хозяйственного организма двух республик, оттолкнув более уязвимую белорусскую экономику от российской.

Пожалуй, немногие осознали тогда весь драматизм, а тем более истинную подоплеку происшедшего. Российские "демократы", не скрывающие, как и белорусские, радости, повторяют сейчас, что победил здравый смысл. Договор, мол, ни в коем разе нельзя было заключать: сама идея его, видите ли, несостоятельна изначально — объединение нанесло бы ущерб России, повесило бы на ее шею белорусов, вызвало бы всплеск инфляции, поскольку по уровню экономики и "весу" денежной единицы Белоруссия, дескать, сильно отстала.

Тут что ни слово — иезуитский обман. В сентябре прошлого года, когда было достигнуто изначальное межправительственное соглашение об объединении денежных систем, белорусский рубль равнялся российскому. И даже самые одержимые "демократы" не поднимали вопроса об отставании белорусской экономики: по всем качественным параметрам, от квалификации кадров до производительности, она заметно превосходила российскую. Договор можно было заключить с явной выгодой для обеих сторон.

Это недавно признал и российский премьер В.Черномырдин. В интервью Белинформу он откровенно сказал, что обе республики в свое время подошли вплотную к созданию единой рублевой зоны. "Я очень сожалею, — добавил премьер, — что объединение денежных систем не состоялось, поскольку год назад этот шаг был возможным и реальным".

Выходит, заключению договора, если брать объективные экономические факты, ничто не мешало. Значит, помешал кто-то? Кто же? Александр Шохин, пытавшийся ставить палки в колеса? Но ведь он — лишь зам. Черномырдина, не та власть. Борис Федоров вкупе с Егором Гайдаром? Но они к тому времени покинули исполнительную власть, их позицию отвергло большинство депутатов Госдумы. Кто же тогда?

Не только от политологов и от тех, кто участвовал в подготовке всех документов и межправительственных переговоров, даже от простых рабочих, с которыми я встречался, не раз доводилось слышать: "Все зависит от Ельцина". При этом мои собеседники, конечно же, понимали, что решает не Ельцин, а его ближайшее окружение, отстаивающее интересы определенных кругов — внутрироссийских и закордонных. Единственной силой, которая могла в той ситуации предотвратить неизбежное объединение, действительно была президентская команда, использовавшая Ельцина как символ, как высшее должностное лицо, у которого хватало на это реальной власти.

Именно он, Ельцин, обещавший учесть стремление двух братских народов к единству, вместе со своей командой и сдал договор. Причина? Ясна, как божий день. И не только специалистам. Ее знают все, кто читал и анализировал экономические справочники за 1992-1993 годы. Цифры бесстрастно засвидетельствовали: Белоруссия для ельцинских реформаторов — что кость в горле. Отказавшись от их рыночных рецептов и сохранив государственную общественную форму собственности с плановым регулированием, она сдержала развал экономики: уровень снижения производства здесь был вдвое, втрое меньше, чем в России. И это при почти полном отсутствии (всего 4 процента) собственного сырья и комплектующих. Да и уровень жизни отличался разительно: цены на самое необходимое, особенно на продукты, при равной зарплате, были намного меньше.

Все это выставляло в крайне неблагоприятном свете ельцинские шоковые реформы. Тысячи россиян приезжали тогда в Белоруссию за дешевым хлебом, мясом, творогом, сыром, маслом... И вот, чтобы полностью исключить опасность белорусского прецедента и в зародыше убить договор (причем не в лоб, а исподтишка), был использован испытанный метод затяжек, проволочек и переносов. И на четыре месяца, и на два, и еще на месяц — каждый раз со случайно возникавшими, явно надуманными вопросами. А тем временем под прикрытием искусно организованной волокиты был введен в действие механизм, разрушающий саму возможность объединения.

Белоруссию, которая платила за нефть и газ из России ненамного дороже, чем российские потребители, лишили этого равенства. Цены на энергоносители, обвально возросшие на внутрироссийском рынке, для нее подняли еще выше. Такой удар, нанесенный в исходную, "энергетическую" точку производства, от которой зависит стоимость всех товаров, способен сокрушить любую экономику. Зашаталась и белорусская. Обвальный рост цен сделал ее продукцию неконкурентоспособной. Ее уже не покупали ни Россия — основной потребитель, ни другие республики. Даже те предприятия, что не остановились из-за разрыва производственных связей, вызванного крушением СССР, стали работать на склад.

Ситуацию усугубляли псевдорыночные шаги, сделанные под давлением российского руководства и своих доморощенных "демократов" правительством Кебича. Передача торговли и части нефтепродуктов коммерческим структурам еще больше взвинтила цены. Уже посередине года на горизонте замаячил призрак катастрофы. Производство впадало в коллапс. Почти 60 процентов достигла месячная инфляция. К триллиону рублей приблизился долг за российские газ и нефть.

Белоруссию поставили на колени. А вдобавок, после избрания А.Лукашенко президентом, российские лидеры потребовали выплаты всех долгов. В бюджете к этому времени, по его образному выражению, остался лишь хвост от церковной крысы.

### За помощью к Западу

Приняв унизительные даже по колониальным меркам требования и монетаристские рецепты МВФ, сгубившие экономику многих стран, команда Лукашенко сделала шаг к превращению Белоруссии в беспомощный и бесправный придаток Запада, его буфер у российских границ.

Больше всего многих шокировала позиция самого Лукашенко. Еще в августе прошлого года он утверждал, что "единственный шанс для спасения от гибели — создание единого государства с бывшими республиками СССР, прежде всего Россией". "Без государственного единства, которое бывшим республикам Союза нужно как воздух, — говорил он в интервью "Правде", — мы ни на йоту не продвинемся в решении экономических проблем. Это будет все та же осточертевшая всем болтовня. То же СНГ — Содружество Нищих и Голодных, некое аморфное образование обнищавших после развала СССР республик". Из-за этого развала, который он называл причиной всех наших бед, Белоруссия, по его словам, потеряла суверенитет. "Попытки решить хозяйственные вопросы без объединения, — твердо заявлял он, — это утопия, обман, которым пытаются успокоить народ".

И вдруг — такой поворот. Не только в реальных шагах — уже и в программных его выступлениях появились новые акценты. Он делает упор на государственность и независимость Белоруссии, оценивая их как некое благо. А на сессии Верховного Совета, словно оправдываясь, отвергает обвинение "демократов" в том, что в телебеседе "Момент истины" высказался за объединение Белоруссии и России. Не было, мол, такого. Просто сказал в ответ: "Да, наш народ выступает за воссоединение с Россией, даже не понимая, какие могут быть издержки этого объединения, настолько в кровь, в плоть нашего народа вошло понятие братства и дружбы русского и белорусского народов". Но то, дескать, народ выступает, а сам он, Лукашенко, за это в интервью не высказывался.

Эта смена акцентов, конечно, вызвала безудержные перетолки. Кто-то обрадовался: "перетянули в наш стан", кто-то забил тревогу: "предательство", "подсадная утка Запада", кто-то стал успокаивать: "тактика", "вынужденные шаги"... Не комментируя этих, а порой еще более крепких высказываний, замечу, однако, что, сконцентрировавшись на личности и шагах Лукашенко, многие упускают главное — действие механизма, посредством которого Ельцин с его командой отталкивают Белоруссию от России.

### В пропасть "путем дракона"

Не видит этого механизма, увы, и большинство россиян. Потому что он разработан и действует под лозунгом защиты их интересов. Мол, во времена СССР Россия давала другим республикам нефть и газ по дешевке — и проигрывала, а теперь подняли цены для них выше внутри российских, восстановили справедливость — и россияне выигрывают.

Опять — обычный для "демократов" иезуитский обман.

Забывается, что, обеспечивая республики по сложившимся внутри народохозяйственного комплекса СССР дешевым ценам, Россия получала от них и дешевую продукцию. Теперь же, подняв для них ценовую планку на нефть, газ, все базовые сырьевые ресурсы выше внутрироссийского уровня и сделав их товары сверхдорогими, не находящими спроса, Кремль уничтожает их экономику. А вместе с нею — и свою, потому что она "завязана" на братские республики тысячами кровеносных сосудов и нервов. Отмирают производство и переработка, к примеру, хлопка, льна, выпуск супертяжелых самосвалов "Белаз", удобрений в других республиках — отмирает и текстильная промышленность, добыча руды и угля, производство сельхозпродуктов в России.

Экономисты подсчитали: падение выпуска продукции в Белоруссии наполовину, к примеру, ведет к его снижению в России почти на два процента, половинный спад на Украине — на 10, в Казахстане — на 6 процентов... В итоге нефтерублевый барыш, выдавленный российским руководством из соседних республик, оборачивается ущербом и для российской экономики.

Создавшуюся обстановку умело используют для того, чтобы вбить клин между Белоруссией и Россией, не только явные бэнэфовцы, но и кое-кто из членов команды А.Лукашенко. Валерий Цепкало, к примеру, недавно назначенный первым заместителем министра иностранных дел, со страниц "Народной газеты", органа Верховного Совета республики, откровенно пугает: отказ присоединиться к программе НАТО "Партнерство во имя мира", которое "полностью отвечает интересам Беларуси", мол, вызовет усиление желаний интегрироваться с Россией, а не с существующими европейскими структурами. При этом, как пушки к бою, Цепкало, что называется "ходит задом". Он взахлеб рассказывает о Сингапуре, который якобы был "вышвырнут" против воли народа из Малайзийской федерации и, пережив "громадный психологический шок", достиг невиданного расцвета. И проводит параллель с Белоруссией: "Подобно Сингапуру, Беларусь не собиралась выходить из Союза". Но раз уж вышло, то надо строить свою политику так, как Сингапур, который расцвел потому, что там "был очень мудрый руководитель Ли Куан Ю".

Попытка юного дипломата, бывшего советника Шушкевича, перекрасить белую Русь в желтый Сингапур, превратить Александра Лукашенко в Ли Куан Ю и навязать Белоруссии путь дракона (именно так — "Беларусь путем дракона" — называется монография Цепкало) выглядело бы просто смешной, если бы он не был в числе приближенных и обласканных президентом и не отвечал бы за вопросы международного экономического, научно-технического сотрудничества, анализа и прогнозирования, международной безопасности Белоруссии.

### С младших братьев — по три шкуры

К чему привело совместное действо "демократических" сил по "расталкиванию" республик, в основе которого — разрушительный экономический механизм, лучше всего говорят цифры. Если в 1992 году во внешнеторговом обороте России доля "ближнего зарубежья" составляла 60 процентов, то сейчас — 20, а 80 процентов приходится уже на дальнее. Такого стремительного распада хозяйственных связей не знает мировая история.

Пожалуй, самое опасное в том, что под искусственной дымовой завесой "экономической целесообразности" республики расталкивают не только всерьез, но и надолго. Лучше всего это видно на примере Белоруссии. После того, как сорвали создание общей с Россией рублевой зоны, вопрос вроде бы окончательно не отпал. Переговоры продолжаются. Но объединение денежных систем обусловлено сейчас новой проблемой: Белоруссия должна снизить инфляцию до уровня российской. Но — как? Ведь снижение инфляции в России достигнуто в значительной степени благодаря выкачиванию из бывших республик СССР денег и ресурсов за газ, нефть и другое сырье. Это перекачивание дает триллионы рублей в российский "карман". Только задолженность Украины, Белоруссии, Казахстана, Молдавии и Туркменистана за газ и нефть, будучи выплачены (чего добивается российское руководство), пополнит казну почти на 5,5 триллиона рублей.

Но у Белоруссии возможности выкачивания из кого-то "сырьевых рублей" нет — снизить инфляцию до российского уровня она, несмотря на все пожелания и обещания, не сможет.

Все это — звенья единого механизма, навязываемого (и навязанного) "демократами" бывшим республикам СССР. Механизма, истоки которого отнюдь не в России. "Цепочка начинается с Запада, с его финансовых, валютных центров и фондов, их монетаристских рецептов, — убежден видный экономист, профессор Николай Сачко. — По этим рецептам Запад руками реализующих их "демократов" грабит Россию, перекачивает из нее ресурсы и деньги. А российское руководство, разрушая собственную экономику, чтобы спастись, усидеть в кресле, перекачивает деньги из республик. Ну, а те — те просто идут ко дну".

### А что же Лукашенко?

Хотя Александр Лукашенко пытается внушить землякам надежду и даже благодарит Россию за то, что не оставила белорусов без горючего на уборке, уже ясно — все эти широко распропагандированные акции по "сближению в СНГ" стали по сути пятым этапом Беловежского сговора.

Первым было соглашение "пущистов" в Вискулях, которым они "похоронили" Союз. Вторым — разрушение единого рублевого пространства. Третьим — расстрел Верховного Совета России, уже подготовившего документы по воссозданию Союза на новой, добровольной основе и денонсации беловежского сговора. Четвертым этапом был срыв договора с Белоруссией.

Нынешний, пятый этап — самый опасный после вискулевского соглашения. "Экономическая и даже политическая судьба того, что не так давно было грозной сверхдержавой, — не скрывая злорадства, констатирует американский советолог З.Бжезинский, — все более переходит под фактическую западную опеку".

Ирония судьбы — на пятом этапе беловежского сговора в русле его оказался и Александр Лукашенко, непримиримый противник беловежских соглашений. Но дело даже не в Лукашенко. Зловещая тень Герострата — главного разрушителя СССР, последнего из трех беловежских "зубров" — висит над содружеством. И пока он, их предводитель, остается у власти, ни о каком возрождении великой державы не может быть и речи. События будут развиваться только в одном — гибельном — направлении.

**Олег СТЕПАНЕНКО, г.Минск**

